# НАВІНКІ

17 - 24 красавіка 2003 №11(90) Кошт свабодны


**НАВІНКІ TV**

Праграма тэлебачаньня 21-27 красавіка 2003

**ХТО Ў НАС УКАЗВАЕ ПЯРСТОМ?**

Стар. 5

**Віза для бацькі**

Куды паедуць адпачываць высокапастаўленыя чыноўнікі?

Стар. 6,11

*Адзюльт і Саладуха*

*Акультнае дасьледаваньне творчасьці вядомай поп-зоркі на*

*стар.15*

**Выступ Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнкі перад Палатай прадстаўнікоў**

**на стар.16**




## Хто стане наступнай ахвярай дэмакратызацыі?

Не пасьпеў як сьлед дагарэць будынак Нацыянальнай бібліятэкі ў Багдадзе, як галава абароннага ведамства ЗША Дональд Рамсфэльд агаломшыў міжнародную грамадзкасьць чарговым ваяўнічым пасажам: маўляў, даю галаву на адсячэньне, што галоўным сябрам тэрарыстаў, які да таго ж утрымлівае ў сябе зброю масавага зьнішчэньня зьяўляецца ніхто іншы, як – Сірыя! Значыцца, бедны Садам Хусэйн, галоўным абвінавачаньнем супраць якога было нібыта ўтрыманьне хімічнай ды бактэрыялягічнай зброі й сьляды існаваньня якой гэтак і не былі знойдзеныя войскамі кааліцыі ў акупаваным Іраку, аказаўся ні пры чым? «Пры чым, пры чым!», – запэўняць вас у Пэнтагоне і ў сьлед яму заківаюць беларускія дэмакратычныя апазыцыянэры. – «А зброі не знайшлі, відаць, па простай прычыне: Садам сто працэнтаў вывез яе куды-небудзь за мяжу. Ну, напрыклад, у Сірыю. А чаму не?». А калі, разграміўшы Сірыю, амэрыканцы ня знойдуць гэтай злошчаснай зброі й там? – запытаецца цікаўны чытач. Адказ у Белым Доме ўжо гатовы: «Значыць, яе вывезьлі ў Іран!».

Гэтая лёгіка дзіўным чынам нагадвае вядомую сярэднявечную практыку часоў паляваньня на ведзьмаў. Абвінавачаную ў вядзьмарстве жанчыну вялі да ракі тапіць. Расклад быў просты, як Буш-малодшы: калі жанчына выплывала – значыць яна ведзьма й яе вялі паліць, калі ж не – царства ёй нябеснае, яна была шчырай хрысьціянкай.

Ня цяжка сабе ўявіць, што калі Буш будзе й надалей прытрымлівацца курсу паляваньня на ведзьмаў-тэрарыстаў ды іхную віртуальную д'ябальскую зброю масавага зьнішчэньня, то амэрыканцы як піць даць ператопяць увесь сьвет у крыві, пакуль не дабяруцца да саміх Злучаных Штатаў. Бо ж у каго самыя вялікія ў сьвеце запасы гэтай самай зброі?..


Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1: 2. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур.
Юрыдычны адр : рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143.
Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: kampramat@tut.by;
Надрукавана з гатовых дыяпазытываў у ПРУП «Чырвоная Зорка», г. Менск, 1-ы Загарадны зав., 3. Заказ №2386
Нумар падпісаны да друку 17.04.2003г., а 00.01. Тыраж 3000 экз.

## Навінкі ў тЭстах

**1. Каму было накіраванае пасланьне А.Лукашэнкі 16 красавіка?**
А) Парлямэнту
Б) Народу
В) Апазыцыі

**2. Колькасьць якой катэгорыі насельніцтва за год павялічылася на 25%?**
А) Бамжоў
Б) Мянтоў
В) Беспрацоўных

**3. За што цяпер прыйдзецца плаціць менскім аўтааматарам 0,06 базавай велічыні за гадзіну?**
А) За мінет
Б) За базар
В) За паркоўку

**4. Якую газэту габрэйскія арганізацыі Беларусі абвінавацілі ў распальваньні міжнацыянальнай варожасьці?**
А) *Русский порядок*
Б) *Русский вестник*
В) *Русский буревесник*

**5. Якая дзяржаўная ўстанова Беларусі адсьвяткавала 80-годзьдзе?**
А) Вярхоўны суд
Б) Вярхоўны маг
В) Вярхоўны жрэц

**6. Які экспэрымэнтальны мэтад пачнуць выпрабоўваць у некаторых сталічных школах?**
А) Швэдзкая сьценка
Б) Швэдзкі стол
В) Швэдзкая сям'я

**7. Рашэньне аб скасаваньні якой газэты было адмененае Менскім абласным гаспадарчым судом?**
А) *Местное время*
Б) *Наша свабода*
В) *Гастроном*

**8. Колькі далі кіраўніку расейскіх нацболаў Эдзічке Лімонаву**
А) Пажыцьцёвае
Б) Растрэл
В) 4 гады

**9. Якая агульнанацыянальная акцыя пройдзе пад патранажам прэзыдэнта ў суботу?**
А) Пятнік
Б) Суботнік
В) Нядзельнік

**10. Які калгас на Віцебшчыне наведаў прэм'ер-міністар Генадзь Навіцкі?**
А) Зара камунізму
Б) Зара капіталізму
В) Зара анархізму

**11. Які завод павялічвае выпуск піва да 2,5 мільёна дэкалітраў у год?**
А) Аліварыя
Б) Крыніца
В) МТЗ

**12. Які беларускі горад атрымаў статус назіральніка ў Саюзе балтыйскіх гарадоў?**
А) Хойнікі
Б) Вільня
В) Гародня

**13. Якая чарговая дзяржава пасылае сваіх гарачых хлопцаў у Ірак?**
А) Літва
Б) Латвія
В) Эстонія

**14. У якую арганізацыю прынялі 10 новых сяброў?**
А) Эўрасаюз
Б) NATO
В) СНД

**Правільныя адказы:** 1-А, 2-В, 3-В, 4-Б, 5-А, 6-Б, 7-А, 8-В, 9-Б, 10-А, 11-А, 12-В, 13-В, 14-А

# Беражыце прыроду, маць вашу!



*Папуляцыя беларускіх квакшаў знаходзіцца пад пагрозай вымірання*



З кожным годам усё больш відаў расьлін і жывёл зьнікае з нашай блакітнай плянэты і ўсё больш іх заносіцца ў Чырвоную кнігу. Толькі выратавалі зуброў, наступіла пагроза для амфібій зямлі беларускай, сьлізкіх земнаводных – жабаў і рапухаў. І справа нават не ў нашэсьці лягушатнікаў-хранцузаў, як многія маглі б падумаць. Усё нашмат банальней. Кожную вясну кволыя стварэньні ў пошуках траху скачуць па Беларусі, як заклапочаныя сайгакі. Гэтая сэксуальная цяга і становіцца для іх фатальнай. Скачучы праз шашы і дарогі яны апыноўваюцца пад коламі аўтамабіляў і тысячамі гінуць цёплымі красавіцкімі вечарамі, пакідаючы толькі зялёныя раздаўленыя рэшткі на халодным шэрым асфальце. Прыйшла чарга для ратаваньня бедных жаб, і заняліся гэтым навукоўцы з нацыянальных паркаў «Белавеская пушча» і «Прыпяцкі», а таксама з Бярэзінскага біясфэрнага запаведніку. А фінансавую дапамогу для рэалізацыі праекту ажыцьцяўляе Ініцыятыва ў падтрымку грамадзкай дзейнасьці і адраджэньня Эўразіі (ISAR). Здавалася, навошта эўрапейцам укладаць грошы ў беларускіх жабаў. Адказ відавочны. У будучым можна атрымаць неблагі навар, калі арганізаваць пастаўкі ў тую ж Францыю. Ласыя да дэлікатэсаў гурманы гатовыя аддаць любыя сродкі за мясістыя ягадзіцы беларускай жабы. Ды й беларускі бюджэт можа атрымаць сваю долю бабла, калі не праваароніць ●

## ЗаалЁгія

### Жаба ў каляіне

Слухай, спадар беларус!
Ведай гэта стары і падлетак!
Гінуць жабкі сотнямі на шашы,
Не даскакаўшы да хаты, да дзетак!

Сьмерць – гэта жах!
І ніякіх тут спэкуляцый.
Пазбавіцца можа прырода
Увогуле ўсіх папуляцый.

Аднолькава гінуць пад колам яны
«Капейкі» ды «брабуса».
Вучоныя на дапамогу прыйшлі,
Аднаго не заўважыўшы казуса.

На кукішках, употайкі, цішком, з-пад елкі
Зубамі заціснуўшы шэры картуз,
З відэльцам у руцэ, сьлінкі глытае,
За жабкай паўзе паляўнічы-француз.

Яму не патрэбна ні круасанаў, ні кексаў,
Ня есьць ён цукерак, яму ня добра ад плюшак.
Гэты ад раніцы звыклы вантробу набіць
Мясістымі лапкамі бедных лягушак.

Ярыла Пшанічны

# Імя ім – легіён

*МУС прымае радыкальныя меры супраць сельскай злачыннасьці*




Раней, калі сябры з вёскі прыяжджалі да мяне пагасьціць, то заўжды зьдзіўляліся колькасьці міліцыі ў горадзе. У нас адзін участковы на пяць вёсак, ды і таго ня бачна, калі ён у запой зойдзе, – кажуць, – а ў вас колькасьць міліцыі на душу насельніцтва набліжаная да колькасьці сьвіней у дацкага фэрмэра. Дык вось, хачу парадаваць знаёмых, усё! Баста! Дзяржава прыняла рашэньне і павялічвае колькасьць вясковых участковых на 25%, а акрамя гэтага, на дапамогу міліцыі для патруляваньня вясковых тэрыторый будуць заклікацца ўнутраныя войскі. Першае, канешне, што прыходзіць на думку, дык гэта тое, што нашыя вёскі ператворацца ў брутальную копію акупаваных расейскімі жаўнерамі чачэнскіх аулаў. Няспынныя зачысткі, п'яныя вайскоўцы, некантраляваны вылет снарадаў на калгасныя палі. І што самае галоўнае, навядзеньне правапарадку ў населеных пунктах пераўтварыцца проста ў павышэньне рэкетырных тарыфаў зь мясцовага насельніцтва. Ну ўявіце сабе самі, калі раней рабіла сабе бабуля самагон для ўласнага карыстаньня, каб радыкуліт, напрыклад, дзеду расьціраць, і да яе раптам заходзіў участковы, то заўжды можна было адкупіцца бутэлькай. А зараз заходзіць будуць больш і часьцей. А бабуля ж для сябе робіць, і апарацік у яе маленькі, а не завод нейкі. І гора вам, трактарысты. Раней, як было, напіўся, праспаўся пад кустом бэзу і пайшоў дахаты. А зараз людзі ў шэрай форме будуць рыскаць па вёсках і шукаць п'яных, каб спачатку затрымаць, а потым на суткі закрыць. Плян жа ўсім выконваць трэба. Так што радуйся, вясковец, вось яна праваая дзяржава, прыйшла і да цябе ●

## LUKA-PARK, або з чаго пачынаецца САДАМія

Праз год нашаму пасабіста дарагому Аляксандру Рыгорычу будзе 50. Круглая дата! Ня кожны прэзыдэнт дажывае. Пуціну на палціньнік шмат падарункаў надавалі: і канёў пародзістых, і аўтамабілі, і нават шапку Манамаха. Нашыя айчынныя лізаблюды пайшлі яшчэ далей. Каб адзначыць слаўны юбілей, ёсьць прапанова закласьці ў сталіцы парк імя Першага Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь А.Г.Лукашэнкі. І то праўда, слушная думка. Вось, напрыклад, парк Горкага. Што гэты Горкі зрабіў для Беларусі? Нават Муму не ён напісаў. А парк ёсьць. І знаходзіцца ў зручным месцы – амаль у цэнтры. Хаця і называюць канкрэтныя месцы, дзе б можна было збудаваць месца адпачынку працоўных, кшталту праспэкту Дзяржынскага, здаецца, што дарэмна пераносіць яго ў такое далёкае задуп'е. Не ў Курапаты ж урэшце рэшт! Трэба паступова (бо час яшчэ ёсьць) пачаць перайменаваньне парка Горкага ў парк імя Лукашэнкі. А помнік Горкаму перарабіць на помнік дарагому прэзыдэнту. Вусы ў яго ёсьць, а астатняе – справа тэхнікі ●




Зураб Цэрытэлі

## Рулет – мінет за рулём



Несупынны рост дабрабыту нашага народу спрыяе імкліваму росту спажывецкіх магчымасьцяў, што праяўляецца ва ўсіх сфэрах нашага жыцьця. Чаму ж яшчэ, прыкладам, усе сталічныя кінатэатры пад завязку забітыя нават на ранішніх і самых дарагіх сэансах? Хіба толькі з-за таго, што падлеткі ды й ня толькі пагалоўна на гэтых сэансах трахаюцца. Але дарослым ды сур'ёзным людзям не хапала гэткай рамантыкі. Але і для іх настаў шчасьлівы дзень. 11 красавіка на тэрыторыі аўтарынку ў Малінаўцы адкрыўся кінатэатар пад адкрытым небам. І тут мы ізноў папярод славянаў усіх – падобны існуе толькі ў Піцеры, і тое ўсяго на 70 машын і зь невялікім экранам. Наш жа разьлічаны ажно на 500 тачак – не на кожную стаянку столькі ўлазіць. Ды і мінэты страчыць зручней будзе ●

# Падзеньне жалезнай заслоны

[illegible]

# Куды пае хаць адпачыць?

## Турыстычны гід для беларускіх чыноўнікаў

©.MirKart.Ru
























# ПАЛІТІНФАРМАЦЫЯ

Вы что, хотите опять держать больницы за собесовские пункты, которые многие будут по-прежнему рассматривать как места, где можно зимой полежать, перекантоваться, где мы будем бомжей, алкашей лечить? Не будет этого. Больнице надо идти к той цивилизованной форме, которая сегодня в цивилизованных, как вы говорите, государствах. Там люди должны получать помощь, им должны оказываться медицинские услуги. Мы перейдем на дневной стационар. Прооперировали человека - мы лучше отвезем его домой, чем будем держать на месте.

Заўтра зноў на перавязку на таксі ехаць

Необходимо более решительно проводить политику вторичного перераспределения доходов населения. Богатые должны более щедро делиться с бедными. Для этого нужен продуманный механизм, не отталкивающих богатых от желания зарабатывать деньги.

Сёньня я дам табе не адзін рубель, а цэлых два!

Дзе Захаранка-а! Дзе Ганч-а-ар!

А ну пайшлі, радзімыя! За Беларусь!

А можа, хер зь імі, з ваўчарамі гэтымі?

У них немного ума, у этих умалишенных осталось, потому они перстом указуют: Вы - следующие. Внутренняя оппозиция пытается запугать общество, насторожить его и этим самым, возможно, дестабилизировать обстановку в стране... Но мы не из пуганых, не из этого состава.

Ну, што, салдацік, яшчэ па адной. За перамогу!

Особое место в современных условиях принадлежит белорусской интеллигенции. Её творческий потенциал должен использоваться более полно и своевременно. В интересах всего народа. Нельзя допустить, чтобы лучших представителей национальной интеллигенции эксплуатировала в своих политических целях оппозиция, подменяя ложными установками подлинно национальные духовные ценности.

В центре планов и замыслов наша главная опора - молодежь. Мы еще слабо задействовали ее мощный потенциал. Вас ждут, уважаемые депутаты разного уровня, в студенческих аудиториях, молодежь вас ждет, идите и расскажите им хотя бы о своей работе. Да они же как голодные волки на нас смотрят. Так почему мы самоустраняется от работы с молодежью.

Карочэ, мужыкі, па жызьні так: без паўлітры не разьбярэсься

Адвалі, пятух ты траянскі!

И хочу сказать, что мы сегодня имеем отдельные виды оружия, которое можно назвать оружием сдерживания агрессора и его пособников. Это обычное оружие, но оно способно нанести значительный урон на значительных расстояниях от территории нашего государства.

Ізвольце, на табурэтачку, містэр. На калені я ня ўстану.

Сфера социального обеспечения - наша сегодняшняя, если можно так выразиться, «ахиллесова пята». Именно за нее нас пытается ухватить всякий недруг. Мол, хотят отобрать у народа льготы, ликвидировать гарантии и так далее.

Не менее важный вопрос- качество подготовки законопроектов. В этом плане у нас есть недостатки. Значит, следует шире привлекать к законотворчеству наших ученых - юристов, сотрудников Национальной академии наук, ведущих вузов страны и самое главное специалистов от жизни.

У нас здесь достаточно точек соприкосновения с европейскими странами. Это - возрастание внешнеторгового товарооборота, общие проекты по упрочению безопасности, ликвидации последствий Чернобыля и другие. Только я Вас очень прошу делать это стоя, а не на коленях.

Ізьмена!!!

Што ж зробіш, брацыша, інфляцыя: 1 бакс за 20 тысяч вушастых

Учитывая небольшую численность нашей оппозиции и уже сложившиеся схемы «освоения» ею зарубежных грантов, следует ожидать появления у нас 50-ти долларовых миллионеров за счет американских налогоплательщиков.

Однако некоторых депутатов не устраивает такой стиль работы. Известная группа депутатов-предателей втянулась в политические игры, направленные на дестабилизацию обстановки в обществе. Под видом «круглых столов», семинаров она попыталась проводить политические кампании антигосударственной направленности, как мне докладывали, в стенах Парламента, принимать провокационные обращения...
И этим, конечно, мы наносим серьезный урон авторитету Национального собрания...
Должен сказать, что я на стороне тех, которые дают отпор этим вылазкам, лазутчикам этим.

**Более того, заявляю со всей ответственностью: Беларусь страна глубочайших перемен. И перемен к лучшему.**